„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 15 (111) БЕЛАСТОК, 13 КРАСАВІКА 1958 г. ГОД III

## Глыбей змест, рознастайней формы нашай працы

Другі З'езд Таварыства, які адбыўся 30 сакавіка ў Беластоку падсумаваў двухгадовую дзейнасць Таварыства і вызначыў напрамак далейшай працы.

Трэба сказаць, што Таварыства мае ў сваёй працы паважныя дасягненні, аднак яны не могуць нас задаволіць. Таварыства далёка не выкарыстала тых магчымасцяў, якія яму далі наш Урад і Партыя. Таму маючы за сабой двухгадовы перыяд працы і некаторыя дасягненні Таварыства павінна думаць аб тым, што зрабіць, каб не таптацца на месцы, каб наш рух наперад быў паступовы, каб на ніве роднай культуры мы маглі сабраць багаты ўраджай. Зразумела, гэта не лёгкая справа. Багаты плён прынясе нам толькі наша ахвярная праца.

А гэтай працы ёсць надзвычай многа. Не выканаем яе, калі будзем працаваць пасобку. Тую велічэзнасць працы, якая стаіць перад Таварыствам не выканае само Галоўнае Праўленне хоць яно будзе працаваць сапраўды калектыўна і ахвярна, калі не ўключыцца шырокі актыў Таварыства — беларуская інтэлігенцыя, настаўнікі, насельніцтва беларускіх вёсак. Для таго, каб у нашу працу ўключылася як найбольшая колькасць людзей, трэба Галоўнаму Праўленню палажыць усе намаганні на шырокую, неадкладную актывізацыю аддзелаў і гурткоў Таварыства. Але актывізацыя не павінна праводзіцца шляхам камандавання зверху, а метадам агульнапалітычнага і металагічнага кіравання працай усіх аддзелаў і гурткоў Таварыства, што выклікае зацікаўленне да працы і ініцыятыву актыву.

Бюракратызм, які пранікнуў у працу ГП не даваў магчымасцей на працягу двух гадоў ўзгадаваць і прыцягнуць да працы ў Таварыства нават мясцовага беларускага актыву, які знаходзіўся пад рукою. Таму неабходнай справай з'яўляецца арганізаванне Беластоцкага Аддзела Таварыства, які займецца згуртаваннем беларусаў, пражываючых у Беластоку і будзе вялікім дапаможнікам у працы ГП. Беластоцкі Аддзел Таварыства павінен пераняць кіраўніцтва над існуючым пры ГП мастацкім калектывам песні і танца і драмгуртком. Павінен ён таксама заняцца арганізацыяй беларускай бібліятэкі і працы клуба.

Трэба, каб Таварыства, асабліва ў Беластоку, сталася больш атракцыйным. Такім чынам прыцягне да сябе беларускую моладзь, якой у Беластоку ёсць многа.

Аддзелы Таварыства павінны адчуць сябе гаспадарамі сваіх мясцовасцей, павінны дакладна ведаць, як прадстаўляюцца ў іх справы асветы і культуры. Таму павінны яны цесна супрацоўнічаць з павятовымі аддзеламі асветы і культуры, і дапамагаць ім развіваць асветную і культурную працу сярод насельніцтва.

Арганізаванне аддзелаў Таварыства павінна садзейнічаць актывізацыі гурткоў. Гурткі, з якіх большасць існавала толькі фармальна, павінны стацца галоўнай справай Таварыства ў беларускіх вёсках. Таму неабходнай справай з'яўляецца актывізацыя існуючых гурткоў і арганізаванне новых. Трэба дабіцца таго, каб у кожнай беларускай вёсцы існаваў гурток Таварыства. Прычынай слабай працы гурткоў з'яўляецца адсутнасць заданняў да іх працы. Зазвычай гурткі абмяжоўваліся да арганізацыі мастацкіх калектываў. Трэба пашырыць праблематыку працы гурткоў, трэба, каб гурткі ўключыліся ў гаспадарчае жыццё вёскі. Так аддзелы, як і гурткі Таварыства павінны праяўляць зацікаўленне эканамічнымі ўмовамі жыцця беларускага насельніцтва, павінны вывучаць і прычыняцца да выкарыстання існуючых эканамічных рэзерваў, павінны садзейнічаць развіццю кааператыўнага руху сярод насельніцтва, павінны заняцца арганізацыяй уласнай матэрыяльнай базы з мэтай забеспячэння матэрыяльных умоў для дзейнасці Таварыства.

Асноўным звяном у працы БГ-КТ з'яўляецца асвета. Таму і ГП, і аддзелы, і гурткі Таварыства, павінны працаваць у тым напрамку, каб у кожнай школе, у якой вучацца беларускія дзеці, беларуская мова выкладалася як прадмет, а таксама, каб навучанне беларускай мовы было ўведзена ў прафесіянальныя і іншыя школы. Трэба развіваць і іншыя формы народнай асветы, напрыклад, курсы беларускай мовы сярод насельніцтва. Таварыства павінна цікавіцца друкаваннем і распаўсюджваннем беларускіх падручнікаў, і ўстанаўленнем падынспектараў школ, валодаючых беларускай мовай. Таварыства павінна цесна супрацоўнічаць з беларускімі настаўнікамі.

Трэба таксама цікавіцца і навуковай працай, трэба прыцягнуць да супрацоўніцтва спецыялістаў з розных галін ведаў. Адчуваецца патрэбу стварэння гістарычнай камісіі, якая згуртуе гісторыкаў, зацікаўленых справай вывучэння і апрацавання гісторыі беларускага насельніцтва ў Польшчы.

Трэба ўжо прыступіць да арганізавання літаратурнага аб'еднання пры рэдакцыі «Ніва», якое згуртуе маладых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў у Польшчы.

Жыццёвай справай з'яўляецца выдавецкая дзейнасць Таварыства. Патрэбны нам беларускія кніжкі, патрэбны сцэнічныя матэрыялы для драмгурткоў, патрэбная таксама мастацкая літаратура.

Таму абавязкова трэба знайсці фінансавыя сродкі на выдавецкую дзейнасць і ажыццявіць Выдавецкі Камітэт, які-б заняўся падрыхтоўкай да друку беларускіх кніжак.

Разам з ростам матэрыяльнага ўзроўню беларускага насельніцтва ў Польшчы няспынна расце яго імкненне да культурнага жыцця. Таму шырокім фронтам трэба разгарнуць культурную дзейнасць нашага Таварыства. Формы нашай працы павінны быць шматлікія і рознастайныя. У галіне нашай культурнай працы нельга абмяжоўвацца толькі да некаторых спраў, калі мы хочам хоць часткова выканаць тое, чаго ад нас спадзяваецца беларускае насельніцтва.

ВІКТАР ШВЕД
Сакратар Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства



Удзельнікі II З'езду БГ-КТ у Беластоку. Фота — ас



Усім нашым чытачам і сімпатыкам складаем сардэчныя святочныя пажаданні.

**Рэдакцыя**

## Сустрэча былых членаў КПЗБ і КСМЗБ
### Беластоцкага павета

Па ініцыятыве Павятовага Камітэта ПАРП, Беластоцкага павета, 31 сакавіка г. г. у памяшканні КВ ПАРП адбылася сустрэча былых членаў КПЗБ і КСМЗБ, Беластоцкага павета.

Мэтай сустрэчы было абмеркаванне формы і метадаў працы ў галіне сабрання ўспамінаў з дзейнасці былых раённых камітэтаў КПЗБ і КСМЗБ і яго ўдзельнікаў на працягу ад 1918 да 1938 гадоў у Беластоцкім павеце.

Пастаноўлена, што да канца месяца красавіка г. г. кожны з прысутных напіша ўспаміны са сваёй дзейнасці, якія будуць дапамогай у апрацоўцы матэрыялаў аб дзейнасці і арганізацыйным стане былых раённых камітэтаў КПЗБ і КСМЗБ у Беластоцкім павеце. Між іншым, была вельмі правільная развага, каб пішучы ўспаміны абмяркоўваць іх калектыўна — дапаможа гэта правільна высвятліць шэраг фактаў. Як вядома, прашло многа гадоў і мала хто можа добра памятаць дзейнасць арганізацыі і яе стан арганізацыйны, а таксама і людзей у ёй дзейнічаючых. Пастаноўлена таксама, што пры дапамозе Аддзела прапаганды ПК ПАРП будуць арганізаваны сустрэчы былых удзельнікаў рэвалюцыйнага руху пераважна ў тых асяроддзях, дзе шырока была разгорнута рэвалюцыйная дзейнасць, як напрыклад: у Гарадку, Заблудаве, Супраслі, Васількове і іншых мясцовасцях павета.

Сцверджана, што ў перыядзе ад 1923 г. да 1938 года ў Беластоцкім павеце існавалі 4 раённыя камітэты КПЗБ, а таксама і КСМЗБ. Найбольш актыўнымі камітэтамі, ахопліваючымі найбольшы абшар былі: Гарадоцкі і Супраскі. Яшчэ пакуль што не ўстаноўлена дзейнасці раённага камітэта ў Супраслі з прычын адсутнасці на сустрэчы яго ўдзельнікаў. У часе спрэчак выйшла адна, вельмі слушная прапанова, якая заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Гэта пабудаванне ў Гарадку помніка для ўсіх загінуўшых камуністаў Гарадоччыны.

А. К.

### Беларуская радыёперадача ў Рыбалах

27. III. г. г. у 16 гадз. 50 мін. адбылася чарговая радыёперадача праз радыёвузел Рыбалы (Бельскі павет). Тэма радыёперадачы — «Вялікі беларускі змагар Кастусь Каліноўскі».

(ся)

